Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару **15 гр.**

# РОДНЫ КРАЙ

**Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.**

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош.

**№ 1 (54)** | **Вільня, 5-га студзеня 1934 г.** | **Год 3-гі.**

# З НОВЫМ ГОДАМ!

## З недалёкай мінуушчыны.

Адыйшоў у мінуўшчыну яшчэ адзін—1934-ты год.

На рубяжы новага 1935 году варта, а мо' й неабходна, зрабіць хоць пабежны агляд недаўняга мінулага.

Як ведама, мінулы 1934 г. быў багаты рознымі здарэньнямі ды падзеямі амаль што для ўсіх народаў, а ў тым ліку і для нас - беларусаў.

*Для Польшчы* 1934 год быў годам вельмі інтэнсыўнае замежнае палітыкі, асабліва-ж, у адносінах да сваіх усходніх і заходніх суседзяў — Саветаў ды Нямеччыны.

У лютым мінулага году міністар Бэк паехаў з афіцыяльнай візытай у Маскву і там была вынесена пастанова аб прадоўжаньні так званага польска-савецкага *пакту аб неагрэсіі на 10 гадоў*. Канчальна падпісаны быў гэны пакт 5 траўня 1934 г. Далейшымі адзнакамі польска-савецкага паразуменьня й збліжэньня былі: узаемныя адведзіны польскіх і савецкіх вылётыліяў марскіх і паветраных, а такжа ўзаемныя адведзіны вучоных і артыстаў. У выніку ўсяго гэтага наступіла кардынальная зьмена тону прэсы савецкай у адносінах да Польшчы і наадварот.

Пад канец году, што праўда, польска-савецкі альянс крыху папсаваўся ў сувязі з праэктам так званага францускасавецкага паразуменьня, але аднак ніякай фармальнай, прынамся, зьмены пакуль што ў адносінах Польшчы да Саветаў не заўважана. Гэтую музыку будучыні не пачуем відаць яшчэ й ў 1935 годзе, тым больш, што спробы францускa-савецкага паразуменьня маюць на сваім шляху яшчэ шмат перашкодаў.

Другім важным фактам у Польскай замежнай палітыцы было падпісаньне 26. I. 1934 дэклярацыі аб *Польска-Нямецкім пакце аб неагрэсіі*. Гэты акт даў пачатак да цэлага раду іншых умоваў, а асабліва ўмовы аб спыненьні трываючай ад 8 гадоў так званай „Мытнай вайны“.

Усё гэта зразумела пацягнула за сабою ў першую чаргу зьмену тону прэсы нямецкай ў адносінах да Польшчы, і польскай—ў адносінах да Нямеччыны.

З *Францыяй* у Польшчы за 1934 г. адносіны значна пагоршыліся, хоць фармальна ўсё пакуль што зводзіцца да даволі вострай, часта прэсавай, палемікі з аднаго і другога боку.

З іншымі дзяржавамі адносіны засталіся без значнейшых зьменаў за выключэньнем *Літвы*, з каторою, можна сказаць, пачаліся пакуль-што неофіцыяльныя гутаркі за пасрэдніцтвам пэўных уплывовых палітычных адзінак так з аднаго, як і з другога боку.

*Унутраная палітыка* Польшчы ў мінулым годзе амаль ні ў чым не зьмянілася. Справа нацыянальных меншасьцяй і ў гэтым годзе не дачакалася чаргі, што асабліва некарыстна адбілася на стабілізацыі суадносін. Пэўныя зьмены наступілі ў галіне гаспадарчай палітыкі, што, трэба прызнаць, дало невялічкую палёгку ды спрычынілася крыху да аслабленьня пануючага крызысу.

Увесь мінулы год прайшоў пад знакам жорсткай барацьбы паміж польскімі палітычнымі партыямі. Забойства міністра ўнутраных справ Перацкага выклікала з боку Ураду жорсткую расправу, асабліва з эндэкамі, ды прывяло да ўтварэньня так званага ізаляцыйнага лагеру ў Картускай Бярозе.

Усё разам узятае, а таксама клопат з праэктам новай канстытуцыі, прывяло здаецца на'т да ўнутранага развалу й так званага санацыйнага лагеру, аднак канчальны бой наступіць, трэба спадзявацца, ў першай палове 1935 году. Пераможцам з гэтага бою зразумела выйдзе санацыйная група, сконцэнтраваная каля Маршалка Пілсудскага, але ў якім злучэньні й у якой комбінацыі сёньня сказаць трудна. Трэба спадзявацца, што рэакцыйны элемэнт, штучна прычэплены да гэнае групы, у 1935 годзе адпадзе.

*У Беларускім жыцьці* за мінулы 1934 год таксама шмат што зьмянілася. На ўсходзе ў так званай БСРР завастрылася барацьба вяліка-дзяржаўнага расейскага шовінізму з беларускім адраджэньнем. Пад прыкрыўкаю барацьбы з так званай нацдэмаўшчынай, бальшавікі пачалі сыстэматычнае душэньне ўсяго беларускага. Найлепшыя культурныя беларускія сілы высланы з Беларусі ці то на Салоўкі, ці то ў далёкія Сібірскія тайгі. Гаспадарчае палажэньне ўсходняе Беларусі за 1934 год значна пагоршылася. Так званыя калгасы давялі сельскую гаспадарку амаль што да канчальнай руіны—сяляне ў шмат якіх раёнах ужо перад новым годам сядзяць бяз хлеба. Шмат насельніцтва галадае ў поўным значэньні гэтага слова.

Высілкі камуністаў да павялічэньня даходнасьці калгасных гаспадарак не далі пажаданых рэзультатаў.

Што праўда, такое зьявішча наглядаецца ня толькі на Беларусі, але ў ваўсім Савецкім Саюзе. Даволі сказаць, што Савецкая Украіна і Крым стаяць у вабліччы голаду.

Ці адмена картачнай сыстэмы на хлеб ды іншыя прадукты першай патрэбы, якую ў канцы мінулага году правеў Савецкі Урад, дасьць палёгку ў гэтым важным пытаньні, сказаць трудна — бо-ж апошнія падзеі ў СССР (забойства Кірава) паказваюць, што ў камуністычнай машыне ўсё болей ды болей нешта псуецца.

*У Заходняй Беларусі* таксама за мінулы год адбылося даволі шмат зьменаў. Калі ходзіць аб палітычна-грамадзкае жыцьцё, то тут перадусім трэба адзначыць важны факт разлому, які адбыўся ў сакавіку-красавіку 1934 г. ў групе беларускіх пазытывістаў-радыкалаў на чале з грам. Р. Астроўскім. Разлом гэты, як выясьнілась, быў выкліканы Беларускай каталіцкай Хадэцыяй, каторая спрытна праз В. Грышкевіча дзеяла на хворую амбіцыю А. Луцкевіча і ўрэшце давяла да формальнага разрыву. Такую прост разьядаючую палітыку Беларуская Хадэцыя вядзе, што праўда, ўжо аддаўна, але ў мінулым годзе яна прынясла для Беларусаў найбольшую шкоду. У выніку ўспомненага разлому зьліквідаваўся й адзіны ў Вільні спажывецкі коопэратыў „Спулдзельца“, кіраўніцтва каторым, пасьля адмовы гр. Р. Астроўскага, ўзяў В. Грышкевіч супольна з Ханяўкай і Краўчонкам. Гэтыя маладыя беларускія „сілы“, якіх так горача падтрымлівалі Луцкевіч і Трэпка, ў працягу 10 месяцаў зьліквідавалі тое, што старэйшае беларускае грамадзянства, ў ня менш цяжкіх варунках, трымала ў працягу 15 гадоў.

Трэба аднак тут зазначыць, што ўсе гэныя хітрамудрыя, як ім здаецца, комбінацыі нашай бел-хадэцыі нічога добрага не далі і ёй самой, бо як яна не стараецца пераахварбавацца, нічога з гэтага ня выходзіць. Наадворот, унутры самой хадэцыі за апошні год стала нешта псавацца: адыйшоў перадусім ад яе пасол Ярэміч, якому відаць урэшце збрыдла скакаць пад дудку кс. Станкевіча, разваліласся ды выступіла з БХД так званая праваслаўная сэкцыя на чале з гр. Сарокай а такжа пакінула рады хадэцыі частка студэнцкай моладзі.

З культурнага фронту трэба адзначыць наступныя ад'емныя факты:

1) Ліквідацыя Навагрздзкай Беларускай гімназіі, 2) адсутнасьць якога-небудзь поступу ў разьвіцьці беларускага пачатковага школьніцтва, 3) слабая актыўнасьць у галіне пазашкольнае асьветы і 4) вельмі нязначная актыўнасьць ў арганізацыі грамадзкага і культурна-мастацкага жыцьця на беларускай вёсцы.

Аднак паза гэтымі ад'емнымі бакамі нашага беларускага жыцьця трэба адзначыць і некаторыя пазытыўна - дадатнія дасягненьні:

1) Нязвычайнае падняцьце роўня часткі беларускай прэсы, асабліва-ж „Роднага Краю“, які ачысьціў ўрэшце свае шпальты ад непатрэбнае брудна лаянкі ды даў чытачу паважнае аб'ектыўнае й сурьёзнае асьвятленьне розных фактаў і зьявішчаў.

2) Выпуск ў сьвет прыгожага літэратурнага зборніку Роднага Краю.

3) Арганізацыя Таварыствам Беларускай Асьветы новых бібліятэк-чытальняў, правядзеньне падгатаваўчае працы да адчыненьня бібліятэк яшчэ ў новых пунктах.

4) Пачатак друкаваньня беларускіх падручнікаў для сярэдняй школы.

5) Утварэньне пры Віл. Шк. Куратарыі камісіі для апра-

цоўкі беларускіх падручнікаў для пачаткавых школаў.

6) Злучэньне праваслаўных беларусаў усіх палітычных кірункаў і грамадзкіх групаў у вадзін усебеларускі праваслаўны цэнтр. Урэшце заснаваньне ініцыятыўнай групы па арганізацыі „Саюзу Беларускіх Аўтаномістаў“.

Падставы для такой арганізацыі, як ведама, крыюцца ў ідэі фэдэрацыі, якая зьяўляецца неабходнай ня толькі для братніх славянскіх народаў – беларускага, польскага й украінскага, але й для ўсіх народаў сьвету. Гэтую ідэю ў аснову свайго сужыцьця палажылі, як ведама: Швайцарыя, Амэрыка, Савецкі Саюз і інш. Аб гэтай ідэі ўсё больш гавораць ў сучасны мамэнт усе народы Эўропы.

# Справа Саарскага басэйну.

У сучасную хвіліну ўвесь сьвет сочыць за так званай справай саарскага басэйну, за здабыцьцё каторага Францыя і Нямеччына вядуць барацьбу. Справа Саарскага басэйну сталася сяньня вельмі актуальнай, шмат аб ёй гаворыцца на старонках прэсы. На гэтым месцы прыводзім жменьку фактаў, паясьняючых сутнасьць Саарскае справы.

Округ, ці інакш басэйн Саары — гэта невялічкі прастор паўднёвае часткі Надрэньня і заходняга баварскага Палятынату, які ляжыць на пагранічču Францыі і Нямеччыны. Жыве тут нешта каля 790 тысяч жыхароў, з каторых (згодна з перапісам з 1910 г.) 786.343 зьляўляюцца немцамі і толькі 342 асобы назваліся французамі. Магчыма, лічбы гэныя сяньня зьмяніліся, аднак трэба сказаць, што саарскі округ—гэта чыста нямецкі край, на што згаджаюцца і самі французы. Пад гаспадарчым поглядам—гэта адна з найбольш прамысловых часьцін Эўропы. Эксплёатацыя вугля, жалеза, сталі, коксу і іншых натуральных багацьцяў дае тут сталую працу, больш як для 200 тысяч работнікаў. Да апошняе сусьветнае вайны Саарскі округ належыў да Нямеччыны. Пасьля вайны, на падставе вэрсальскага дагавору, гэты край быў часова аддадзены пад кіраўніцтва Лігі Нацыяў. У пятнаццаць гадоў пасьля ратыфікацыі вэрсальскага трактату, насельніцтва Саары, шляхам плебісцыту, само мае вырашыць сваю дзяржаўную прыналежнасьць: ці да Францыі, ці да Нямеччыны. Тэрмін гэтага плебісцыту ўжо вызначаны і адбудзецца 13 студзеня 1935 г.

Францыя, жадаючы правесьці плебісцыт з карыснымі для сябе вынікамі, імкнулася ўсялякімі спосабамі ўвесьці ў Саару частку свайго войска. Такі шаг Францыі вызваў-бы з боку Нямеччыны вострую рэакцыю, якая магла-б выклікаць новую вайну. Каб не дапусьціць да гэтага ўтварылася ў Л.-Нацыяў міжнародная камісія па саарскаму пытаньню, у якую ўвайшлі прадстаўнікі Англіі, Амэрыкі і Швэцыі. Гэткі „камітэт 3-х“ пастанавіў увесьці ў Саару міжнароднае войска (англійскае, італьянскае і галяндзкае), якое сачыла-бы за правільнасьцю правядзеньня плебісцыту. Войска гэта ўжо прыбыло ў Саару.

З гэтага відаць, што Францыя была змушана зьмяніць сваё ранейшае становішча і пайсьці на ўступкі Нямеччыне.

# Апошнія падзеі ў Саветах.

I.

Як і можна было спадзявацца, замена дасюлешняй выдачы хлеба ў Саветах па „картачкам“ на вольную прадажу хлеба ў коопэратывах і урадавых крамах выклікала новае узварушэньне сярод насельніцтва гарадоў і часткай вёсак.

Газэты падаюць, што ў першыя-ж дні вольнае прадажы хлеба для ўсіх не хапіла, перад крамамі стаялі тысячныя калейкі, жадаючых купіць хлеб, а яго ня было, бо-ж пачаўшыяся сільныя маразы перашкаджаюць падвозцы хлеба з адных раёнаў у другія. Дзесяткі паяздоў прастаіваюць у дарозе па некалькі дзён, бо паравозы псуюцца на кожным шагу. Шмат хлеба, які ў мяшкох ляжаў на станцыях бяз прыкрыцьця, засыпала сьнегам. У сувязы з гэтым шмат чыгуначных служачых арыштавана за „сабатаж“, але ад гэтага хлеба ў шмат якіх месцах ня прыбыло. У Маскве і Ленінградзе выбухлі „хлебныя“ непарадкі, якія зьліквідавала міліцыя, але насельніцтва ўсім гэтым абурана і варожа адносіцца да прадстаўнікоў улады і да сябраў камуністных арганізацыяў.

У Менску і другіх гарадох сав. Беларусі узьніклі таксама „хлебныя“ непарадкі, прычым арыштавана за „сабатаж“ некалькі выдатных сябраў „горкому“ (гарадзк. камітэту), ня гледзячы на тое, што гэта заслужаныя сябры камуністычнае партыі.

Сяляне, а таксама і калгозы, хлеба не здаюць, ня гледзячы на тэрор уладаў. Вось так выглядае „вольная прадажа хлеба“ у Саветах у першыя дні, а далей будзе пэўне-ж ня лепш.

II.

У Маскве гэтымі днямі адбыўся суд над б. сябрамі камуністычнае партыі, Нікалаевым і 13 ято таварышамі. Судзіў іх ваенны трыбунал пры зачыненых дзьвярох, які ўсіх засудзіў на смерць. Усе засуджаныя расстрэлены, а маемасьць іх сконфіскавана. Нікалаеў, як ведама, забіў у Ленінградзе аднаго з кіраўнікоў сучаснага савецкага рэжыму, Кірава, сэкрэтара Ленінградзкага Камітэту камуністычнае партыі і асабістага прыяцеля Сталіна. У сувязі з забойствам Кірава, як падаюць газэты, апрача Нікалаева і яго таварышоў расстрэлена каля 100 чалавек, звыш 1000 чалавек арыштавана, шмат савецкіх урадоўцаў скінена з пасадаў, у іх ліку і Ягода, б. начальніка Г.П.У. Савецкія ўлады закідаюць расстрэленым і часцы арыштаваны прыналежнасьць да тайнай левай арганізацыі, якая, быццам, мела цесную лучнасьць з Каменевым, Зіноўевым і Троцкім і імкнулася да перавароту. Загаворшчыкі, быццам, мелі намер арыштаваць і адсунуць ад улады Сталіна, Кагановіча, Молатава і інш., а уладу хацелі аддаць Троцкаму, Каменеву, Зіноўеву і іх староньнікам. Якія сапраўды былі мэты апазыцыянераў, аб гэтым пакуль што няведама ды й ня хутка, пэўне, будзе ведама. Адно можна сьцьвердзіць, што ў Саветах расьце і пашыраецца нездавальненьне сучасным парадкам, бо-ж апазыцыянеры мелі сваіх староньнікаў ня толькі ў Ленінградзе і Маскве, але і ў правінцыяльных местах, ня толькі сярод працоўнай інтэлігэнцыі, але і сярод работнікаў фабрык і заводаў, аб чым сьведчыць і тое, што партыйныя ўлады хочуць выкінуць з камуністычнае партыі каля паўмільёну сяброў партыі. Усё гэта стварае трывожны настрой, як у нізох партыі, так і правячых кругох, тым больш, што міжнародная сытуацыя Саветаў, ня гледзячы на рухлівасьць і спрыт савецкіх дыплёматаў, не зьяўляецца бліскучай. І калі раней можна было пачуць цьверджаньне, што час працуе на карысьць Саветаў, то ў сучасны мамэнт, здаецца, можна сказаць, што час працуе проціў цяперашніх савецкіх кіраўнікоў, проціў іх прыяцеляў і прыхільнікаў.

*П.*

# З краю.

— Акружны суд у Лодзі разглядаў справу Зендэра Зэльвера, Алёны Краўзэ і Эсфіры Зайдэнвурм, якія абвінавачаны ў камуністычнай дзейнасьці ў Лодзі. Суд прысудзіў Зэльвера на 6 гадоў, Краўзэ на 2 і Зайдэнвурма на 1 год турмы.

— Паводле дадзеных спэцыяльнай статыстыкі, ў Польшчы ёсьць 5767 вайсковых могілкаў

— Уласьнікі веласапедаў зласылі просьбу аб паменьшаньні падатку, які дагэтуль выносіць 7 зл. у год. Ёсьць надзея, што падатак будзе зьменшаны.

— Констытуцыйная камісія сэнату пачне сваю працу 7 студзеня г. г.

— Паводле статыстычных дадзеных у працягу 1934 году выехала з Польшчы ў Палестыну 13.280 жыдоў.

# Расейска-Украінская спрэчка і мы.

Аддаўна ўжо трываючая, на Валыні і ў Галіцыі барацьба між расейцамі і украінцамі разгарэлася апошнім часам з новай сілай. Сьведчыць аб гэтым хаця-б тое, што ў віленскай расейскай газэце „Русское Слово“ што дня можам спаткаць стацьці, прысьвечаныя гэтай справе.

Перад вайной украінскае насяленьне Галіцыі знаходзілася пад панаваньнем Аўстрыі, якая, маючы пад сабой шмат розных народаў, не магла мець посьпеху ў іх германізацыі, бо самі немцы ў Аўстрыі прадстаўлялі сабой упрывілеяваную меншасьць. Дзякуючы гэтаму, нацыянальная сьведамасьць Галіцкіх украінцаў хутка разьвіваецца і дасьпявае.

Але, адначасна з ростам украінскай нацыянальнай сьведамасьці, ў некаторых куткох Галіцыі, як род рэакцыі супроць германізатарскіх спроб, пачынаюцца пашырацца ўплывы расейскія. Творыць іх, калі не агітацыя, то прынамся аўторытэт магутнай ў той час расейскай дзяржавы, ад якой можна было спадзявацца помачы ў выпадку прымусовага анямечваньня. І вось тады ўжо можна бачыць пачаткі украінска-расейскай барацьбы, працяг якой бачым мы цяпер.

Расейскія ўплывы на Украіне, наагул ня вельмі моцныя, загінулі-б напэўна разам з упадкам расейскага царызму, калі-б іх падтрыманьнем не занялася расейская эміграцыя, якая на нацыянальнай нясьведамасьці некаторых украінцаў імкнецца пабудаваць нейкі сурогат расейскай нацыянальнай меньшасьці. На перашкодзе да гэтага стаіць нацыянальна - усьведамляючая праца украінцаў, і вось з ёй пачынаюць расейцы нязвычайна вострую барацьбу. Мэтоды гэтай барацьбы даўно ўжо перайшлі граніцы ня толькі звычайнай людзкай этыкі, але нават і вельмі элястычнай этыкі палітычнай. На біцьцё украінцамі шыб у вокнах расейскіх арганізацый, расейцы ў сваёй львоўскай газэтце „Русскій Голос“, з пенай на вуснах адказваюць ня меньш хуліганскімі выпадамі.

Віленскае „Русское Слово“ да апошняга часу трымалася у гэтай справе даволі прызваіта. Змагаючыся за расейскія уплывы і ідэю расейскай меншасьці, яно не пазваляла сабе ніякіх някультурных выпадаў, але цяпер вір барацьбы ахапіў і некаторыя яе стацьці, прысьвечаныя украінска-расейскай справе, — нат‘ чытаць прыкра. Так у № 292 (ад 13 сьнежня) „разаблачаецца“ дырэктар украінскай гімназіі ў Крэменцы М. Кобрын; робяцца яму закіды ў „палякаедзтве“ і русыфікатарстве перад вайной. Слушныя закіды, ці ня слушныя, але стацьця прыкра пахне даносам. У наступным (293) нумары тэй-жа газэты нехта „Валынец“, перадаючы зьмест даволі лагоднай стацьці польскай газэты „Wołyń“, полемізуючай з соймавай прамовай украінскага пасла Левіцкага, іранізуе: „Як прыемна чытаць так дэлікатна напісаную стацьцю. Мы-ж і ня думаем абвінавачваць украінцаў у дэструкцыйнай працы. Што вы? Мы не гаворым, што яны кідаюць бомбы ці страляюць у нашых міністраў, о, не! Але, толькі, бачыце, хопіць ім павярнуцца, як бомбы, так сказаць, самі ўзрываюцца, такая, бачыце, атмосфэра.

Так, што і казаць, атмосфэра цяжкая! Калі і лятучкі нелегальныя самі-сабой друкуюцца і разлятаюцца па усёй Польшчы, калі антыдзяржаўныя плякаты самі сабой вывешваюцца на кірмашах, калі зьнекуль самі сабою, як мыльныя пухіры, ўсюды ўзьнікаюць працэсы розных ОУВ, ОУН, КПЗУ,... то сапраўды ўсялякія сумлівы адносна атмосфэры ня маюць месца“.

А некалькі радкоў перад гэтым той самы аўтар пісаў: Расейскаму тэатру дарога на Валыні зачынена, а Украінскі атрымоўвае субсыдыю і можа сваю „Наталку Палтаўку“ ці „Запарожца за Дунаем“ ставіць бесканечны лік разоў“. Зьмест гэтага ўсяго ясны: „Вось мы, бедныя расейцы, і бомб ня кідаем, і шыб у школах польскіх ня б‘ем, і лятучак нелегальных ня друкуем, і наагул такія „прожондовыя“ і „ультралёяльныя“, а нічога ня маем, а Украінцы столькі вам клопату прыносяць, і „атмосфэра ў іх цяжкая“, а вы ім і тэатр, і субсыдыю!“

Ясна, для „меншасьці“ больш было-б прызваіта цешыцца, калі іншая меншасьць нешта здабывае, а не жаліцца на гэта і заздросна злаваць, але добра ўжо, хаця тое, што „Русское Слово“ не гаворыць проста:

„Або дайце нам тое, што далі украінцам, або адбярэце ад іх гэта, калі яны гэтага ня вартыя“.

Аб барацьбе расейцаў з украінізацыяй царквы пагаворым калі небудзь пазьней, цяпер-жа разважым, якое становішча мы, беларусы, павінны заняць адносна украінска-расейскай спрэчкі.

Зразумела, што ўсе нашыя сымпатыі па старане Украінцаў, але ў сучасны мамэнт, мы нічым памагчы ім ня можам, ды й яны нашай помачы ня просяць і не патрэбуюць.

З другога боку, не хацелі-б сварыцца з расейцамі дзеля таго, што як дагэтуль віленскае, расейскае грамадзянства рэдка калі выяўляла да Беларусаў сваю варожасьць.

Але апошнімі часамі гэтыя, даволі згодныя, адносіны могуць папсавацца. Спрычыніцца да гэтага могуць дзьве рэчы: з аднаго боку патрэба беларусізацыі царквы, якую Беларусы добра зразумелі, а на якую Расейцы заглядаюцца варожа, з другога боку, акцыя СРМО (Союз Русских меньшинственных Организацій), які віленскае расейскае грамадзянства хоча ўцягнуць да працы на вёсцы сярод беларускага народу.

Калі расейскае віленскае грамадзянства на такую русыфікатарскую акцыю пойдзе, дык зразумела, што спаткаецца з нашага боку з найвялікшым адпорам і можа спаткаць і на нашых, дасюль так спакойных землях тое, што спаткала расейцаў на Украіне.

